# Наша хроніка,

**Звальненьне з турмы грам. Шнаркевіча.** 27.X зволънены з Лукішак грам. Шнаркевіч сэкрэтар Т-ва Белар. Школы арыштаваны ў студзені месяцы ў справе Грамады. Шнаркевіч прасядзеўшы $9\frac{1}{2}$ месяцаў зволънены зараз да суда пад каўцыю 500 зл.

**Дзесятыя ўгодкі Беларускай Сярэдняй Школы.** Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы 24.X-1927 г. выслала паперу да Камісара Ураду на дазвол на ладжаньне сьвяткаваньня дзесятых угодкаў існаваньня беларускай сярэдняй школы. Дазвол ад Куратарыума ўжо атрыманы На сьвяткаваньне запрашаецца цэлы чарод заграні чных гасьцей, а таксама з правінцыі культурных дзеячоў. Прадпалагаецца, што на сьвяткаваньні будзе прысутных каля 300 асобаў. Сьвяткаваньне мае адбыцца ў дзень 1 лістапада г. г. у 7 гадз. увечары ў салі Віленскае Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9). Праграма сьвяткаваньня будзе наступная:

I. Рэфэрат грам. Трэпка Ант. на тэму: „10 гадоў існаваньня беларускае сярэдняе школы".

II. Канцэртны аддзел. Хор, складаючыся з вучняў і вучаніц Віл. Бел. Гімназіі з учасьцем лепшых сілаў, запрошаных з боку, пад кіраўніцтвам гр. Шырмы Г. выканае наступныя песьні:

1) Requiem, пераклад Н. Арсеньневай на музыку М. Анцова.
2) Усе зорачкі, палеская песьня.
3) А хто там ідзе.
4) Не зязюленька.
5) Песьня жняўцоў.

Апрача гэтых песьняў, будуць выканаўны некалькі нумароў твораў Шубэрта, Грэцкага, Грэчанінава: сэранада, баркароля і Вясьнянка.

**Спэктакль-вечарына.** У гэтую суботу 29-га кастрычніка 1927 г. у памешканьні Галоўнай Управы Т-ва Белар. Школы (вул. Сьв. Ганны 2—3) будзе зроблена вечарына Тэатральнай Сэкцыяй Новасьвецкага Гуртка Т-ва Бел. Шк. На сцэне будзе пастаўлена адна-актовая камэдыя: „Яе трэба паказаць доктару"—пераклад з расейскага, гдзе прымуць чынны ўдзел: А. Мітрафанаў, Л. Леванава, Н. Рэшатавічанка і А. Іваноўскі. Пасьля сцэны дэвэртысмэнт і скокі пад духавы аркестр да 3 гадз. ночы.

**Адмова ў легалізацыі Т-ву пісьменьнікаў „Веснаход".** Па надышоўшых вестках заснаванаму вясной гэтага году апалітычнаму Т-ву беларускіх пісьменьнікаў і мастакоў, пад назовам „Веснаход", адмоўлена ў легалізацыі на аснове таго, што нібы на чале яго стаяць былыя грамадаўцы. Па-першаму—гэта няпраўда, бо большасьць праўленьня складалі апалітычныя, па-другому—выходзіць, што той, хто быў у Грамадзе, зьяўляецца грамадзянінам іншай катэгорыі. Такім чынам, як бы па-за законам апыняецца 100 тысяч самых актыўнейшых беларусаў.

**Зацьверджаньне канфіскаты № 5 „Нашай Працы".** Акружны суд у Вільні зацьвердзіў канфіскату № 5 нашай газэты, зробленую Камісарам Ураду. Суд у зьмешчаным „Пратэсьце Нацыянальнага Камітэту"—проці арышту Антона Луцкевіча,—убачыў праступак проці 50 артыкулу новага прэсавага закону, г. зн. за ўсхваленьне „праступніка".

Згодна паведамленьня Камісара Ураду, Акружны Суд дня 16/X зацьвярдзіў таксама канфіскату № 3 „Нашай Працы".

**Ведаюць, каго хваліць.** Расейская газэта „За свабоду", якая выходзіць у Варшаве, проста захвальвае нядаўна пачаўшую выходзіць часопісь „Праваслаўная Беларусь" і яе кіраўнічых рэдактароў — сэн. В. Багдановіча і сьвяшч. Голада. Ніколі мы ад гэтай газэты яшчэ ня чулі пахвалы чаму небудзь беларускаму.

А тут—на ж табе! Не дарма-ж кажуць—свой не заплача, дык скрывіцца!..

Газэты падаюць весткі, што пад кіраўніцтвам тых-жа асоб пачынае выходзіць і расейская часопісь—„Православная Жизнь".

Усё адно да аднаго!

**„Беларуская радыкальная народная партыя".** На адбытай 25-га кастрычніка нарадзе „прыхільнікаў" „Беларускага Дня" — пастаноўлена з'арганізаваць новую партыю пад вышэйпаказаным назовам. Чым нашы горш вашых, ці, скажам, Умястоўскі за Павлюкевіча? Ці не з аднае крынічкі воду п'юць?

Цікавы падробнасьці нарады. Прыехалі толькі асабіста запрошаныя, — тут ім выдалі на дарогу туды й назад, адвялі готэль „Вэнэцыю", далі па пяць злотых „сутачных" — чым жа кепска?

Нарада, па расказах удзельнікаў, выглядала так „урадова", што навет і ня думалася, што гэта якаясь беларуская нарада. Прапануюць што—ну й добра—пашто спрачацца?

Бо запраўды-ж ня дзіва: над усімі зорка бліщчэлі вочы вядомага правакатара Гурына!

**Рэгістрацыя мужчын, народжаных у 1907 годзе.** Магістрат Вільні выдаў распараджэньне аб паўторнай перарэгістрацыі мужчын, народжаных у 1907 годзе. Рэгістрацыя адбудзецца ад 1-га лістапада да 31-га сьнежня гэтага году. Гэтаму распараджэньню падлягаюць, як мужчыны, прыпісаныя да Вільні, так і фактычна перабываючыя тут, але нямаючыя сталага месца перабываньня ў краі. Пры рэгістрацыі мусяць мець мэтрыку народжаньня, або пашпарты, ці ўрэшце выцягі з кніг сталай люднасьці, ці іншыя дакумэнты, сцьвярджаючыя год народжаньня.

Вінныя ў ухіленьні гэтага абавязку падлягаюць штрафу да 500 злотых, або арышту да 6 тыдняў.

# З Таварыства Беларускае Школы.

## Зьезд Таварыства Беларуск. Школы ў Слоніме.

16/X—1927 г. у м. Слоніме ў памяшчэньні кіна „Модэрн" адбыўся зьезд сяброў Т-ва Белар. Школы Слонімскага павету дзеля выбараў Акружнае Управы. Дэлегатаў ад г-коў зьявілася 86 асоб. На павестцы дня былі наступныя пытаньні:

1. Даклад аб працы Галоўнае Управы;
2. Выбары Акр. Управы;
3. Справа Народнага Дому і б.-чытальні;
4. Бягучыя справы.

А палове першае старшыня Галоўнае Управы сэнатар Уласаў кароткаю прывітальнаю прамоваю адчыніў зьезд.

Пасьля выбару прэзыдыуму старшыня сходу Павал Крынчык, зазначыўшы важнасьць тае працы, якую вядзе Т-ва Белар. Школы, ад імя прысутных выказаў падзяку сэнатару Уласаву і Галоўнай Управе за іх працу і прызываў прысутных паглыбіць і ўзмоцніць начатае дзела. Гэтыя гарачыя словы прамоўцы былі спатканы дружнымі воплескамі і словамі: „Няхай жыве беларуская культура! Няхай жыве Т-ва Белар. Школы! Няхай жыве сэнатар Уласаў". Сэнатар Уласаў абрысаваў, якое значэньне мае культура ў жыцьці кожнага Народу. Культурны Народ ня можа быць паднявольным. Толькі, дзякуючы разьвіцьцю свае нацыянальнае культуры, вызваліліся ад шматгадовага рабства Чэхі, Сэрбы і іншыя Народы. Яшчэ да свайго вызваленьня Чэхі на грамадзкія ахвяры пабудавалі раскошныя школы і Народныя Дамы. Наша сучаснае становішча надта цяжкае. Вартасьць кожнага Народу залежыць ад ягонае асьветы. Асьвету галоўным чынам дае школа, але на-жаль да гэтага часу, апрача 4-х гімназіяў, мы ня маем школ. У той час, калі польскія сярэднія школы выпускаюць да 25 тысячаў матурыстаў, урад не прызнае матуры 80 асобам, скончыўшым беларускія гімназіі, і гадунцы нашых гімназіяў павінны бадзяцца па ўсяму сьвету, каб здабыць сабе вышэйшую адукацыю. Па замежамі беларуская справа абстаіць ляпей. Там беларусы маюць магчымасьць пашыраць сваю родную асьвету. У Латвіі, напрыклад, гдзе пануючая нацыя далейшая ад нас па крыві, Беларусы маюць поўную культурную аўтаномію. На кожную тысячу там маюць пачатковую школу, а на 18 тысяч гімназію. Крэдыты на беларускую асьвету адпускаюцца скарбам прапарцыянальна ліку беларусаў у гаспадарстве і імі распараджаюцца самі беларусы.

У канцы сэнатар успомніў і тых ідэйных барацьбітаў-адраджэнцаў, якія адышлі ад нас у вечнасьць і запрапанаваў ушанаваць іх памяць уставаньнем, што было спаткана дэлегатамі надта спачуваюча.

Далей шэраг дэлегатаў надзвычай жыва высказаліся аб тым цяжкім становішчы, у якім знаходзіцца беларуская культура і спосабах падняцьця яе на суадказную вышыню.

З гэтых дакладаў выявілася, наколькі сябры Т-ва аддаюць патрэбнае нашай культуры, як балеюць за ўсе тыя перашкоды, якія не даюць ёй свабоднага разьвіцьця. „Усе на фронт барацьбы з цемраю"! „Наша беднасьць залежыць ад нашае цемры і мы павінны дзень есьці, а другі галадаць, каб паставіць сваю культуру на патрэбную вышыню"! Вось лёзунгі прамоўцаў.

Прадстаўнік Галоўнае Управы **С. Жыткевіч**, падчыркнуўшы слово беларускай культуры ў гісторыі народу, констатуе факты сьвядомага і геройчнага імкненьня ўсяго народу да будаваньня і пашырэньня роднай культуры цяпер, калі, ня гледзячы на ўсе перашкоды школьнае і адміністрацыйнае ўлады, за год існаваньня Т-ва Школы сумела пакрыць край сеткаю гурткоў, якія налічваюць 11 тысяч сяброў, маюць 105 бібліатэкаў-чытальняў і дзесяткі Народных Дамоў, паслаў дэкляраацыяў на адчыненьне больш 400 урадовых школ. Аб гэтым імкненьні народу сьведчыць вялічэзны запыт на родную кнігу, газэту — і тыя спэктаклі і вечары, якія робяцца па ўсіх кутках Зах. Беларусі...

Пасьля 15 мінутнага перарыву праведзены былі выбары ў Акружную Управу і Нагляднуюю Раду. У Управу выбраны: С. Жыткевіч (старшыня), п. Крышчык (в.-старшыня), Мамай Аляксей (в.-старшыня), А. Лябецкая (сэкрэтар), А. Тамільчык (скарбнік), Саванец Л. і Жыткевіч Янка (сябры); у Наглядную Раду: Зенько М. (старшыня), Біч А. (в.-старшыня), Мароз Я. (сэкрэтар і Герасімчык М. (сябра).

Надзвычай жыва абгаварвалася справа будовы ў Слоніме Народнага Дому. **Грам. Лябецкая** запрапанавала зьвярнуцца да ўсіх гурткоў Т-ва аб асыгнаваньні на гэту мэту прынамсі па 5 злотых. Апрача гэтага, пастаноўлена зьвярнуцца да валасных радаў і павятовагага сойміку аб асыгнаваньні суадказных крэдытаў — і да сваіх заможных братоў аб ахвярах на будову Народнага Дому.

На зьезьдзе аднагалосна была прынята наступная рэзалюцыя:

Мы, дэлегаты зьезду сяброў Т-ва Бел. Школы на зьезьдзе 16.X 27 г. у м. Слоніме пастанавілі дамагацца:

1) адчыненьня ўрадовых беларуск. школ на зложаныя дэкляраацыі у 1926 г.;
2) адчыненьня ўрадовых беларускіх гімназіяў і прафэсыянальных школ і субсыдываньня 4-х існуючых беларускіх гімназіяў на роўні з польскімі дзяржаўнымі гімназіямі;
3) Наданьня матуры асобам, скончыўшым беларускія гімназіі;
4) адчыненьня катэдры беларусазнаўства пры Віленскім Унівэрсытэце;
5) пастанавілі: Узмацніць культурную працу на мясцох;
6) складаць і надалей дэкляраацыі на ўрадовыя беларускія школы;
7) узмацніць, як сваю грашовую ахвярнасьць, так і маральнасьць;
8) вясьці рашучую барацьбу з ужываньнем алкаголю.

У палавіне шостае ўвечары зьезд закончыўся. З цьвёрдаю рашучасьцяй праводзіць у жыцьцё ўсе тыя пытаньні, якія абгаварваліся на зьезьдзе, дэлегаты разьехаліся па сваіх вёсках.

Каб мець і надалей у памяці гэты першы гістарычны дзень у нацыянальным жыцьці Слонімшчыны, дэлегаты сфатаграфаваліся.

**Прысутны.**

# Карэспандэнцыі.

## Да выбараў у Горадзенскую мястовую раду.

Перасылаем падрабязгі выбараў у мястовую раду, якіх ня было асьветлена ў нашай газэце, але аб якіх павінна ведаць наша грамадзянства.

Выбары адбываліся ў нейкай напружанай атмасфэры, нібы перад бурай, якая заправды сталася.

Выбары адбыліся 9.X, а ўжо ўноч з 9 на 10, калі сталі высьвяцца вынікі галасаваньня (а якія яны былі ўзапраўднасьці, няма ведама, бо „mężów zaufania" не дапусьцілі быць прысутнымі пры абліччаньні галасоў), застаў заарыштаваны камітэт № 6: Пачобут, Фінк, М. Кулакоўскі і паўнамоцнік лісты Зьм. Кулакоўскі, а па двох днёх і Я. Баліцкі „jako czołowy mąż". Калі ж Галоўны Выбарны Камітэт пакончыў з абліччаньнем галасоў і абвясьціў аб выніках галасаваньня, то аказалася, што сьпісак № 6, мае 6 мандатаў. але... амаль ня ўсе за кратамі.

Вось, якая ў нас свабода выбараў.

**Выбаршчык.**

## Справа шасьцёх грамадзян.

У хуткім часе будзе разглядацца сэсіяй Акружнога Суда ў Ваўкавыску справа 6 цёх грамадзян, абвінавачаных паводле арт. 102 ч. I К.К., што быццам належалі да камуністычнай партыі Зах. Беларусі, якая мела на мэце адарваньне Заходняй часьці Беларусі ад Польшчы і далучэньне яе да Радавага Саюзу.

Прозьвішчы абвінавачаных наступныя: Уладзімер Міралюбаў, Панас Мялешка з вёскі Міхалак-Вялікіх, Хвёдар Сыраежка, Кастусь Качка з вёскі Качкі, Антон Радзівон з вёскі Грынкі-Вялікія, Янка Бакавач з вёскі Наркавічы.

Акт абвінавачаньня атрыманы 19.VIII 1927 году.

## Спэктакль-вечарына ў Глыбокім.

Пасьля летніх працаў, якія спынілі тэатральную працу, у нядзелю 16 кастрычніка Глыбоцкае Т-ва Бел. Школы йзноў наладзіла платны спэктакль-вечарыну ў салі Т-ва з наступнай праграмай: „Янка Канцавы"—драма К. С., „Лекары і лекі" камэдыя—А. Гаротнага і танец „Гапак".

Пагода й тая спрыяла ўдачы спэктаклю, бо дажджлівая, якая была ў папярэднія дні, зьмянілася на марозную і пекную пагоду.

Тэатральная саля Т-ва была адпаведна прыбрана ў нацыянальныя колеры, а над сцэнай віднелася „Пагоня". А гадзіне сёмай увечары саля пачала хутка напаўняцца глядзельнікамі.

Ролі свае артысты выканалі дужа добра, ня гледзячы, што некаторыя йгралі першы раз, так што публіка была задаволена, ведаючы, што не аддала грошы дарма. Найляпей ігралі: Зіна Багдановіч у ролі Разалькі ў „Янку Канцавым" і маткі ў „Лекары і лекі" і Агата Жаўтковіч у ролі Карусі ў папярэднім творы і Знахаркі ў другім; яны таксама танцавалі Гапака, пасьля катарага на салі доўга ня сьціхалі воплескі. Па спэктаклі танцы распачаліся з нашай роднай „Лявоніхі". Вечарына адышла вельмі добра і весела, а а трэцьцяй гадзіне ўсе ў добрым настрою разышліся, з надзеяй праз кароткі час ізноў убачыць спэктакль у сваёй роднай мове!

**Суфлёр.**

# Памажэце школьнікам!

Матэрыяльны стан нашых гімназіяў (Віленскае, Радашкаўскае, Клецкае і Навагрудзкае) заўсёды быў вельмі цяжкі. Утрымліваліся яны ахвярнасьцяй нашага вучыцельства, соймавага прадстаўніцтва і наагул усяго беларускага грамадзянства. Штогоднае павялічэньне ліку вучняў, якія набіраюцца пераважна з вясковае беднаты, выклікала патрэбу новых сродкаў на іх утрыманьне. Узрост-жа дарагоўлі ставіў і ў сучасны мамэнт ставіць гімназіі—з за нястачы матэрыяльных сродкаў—перад небясьпекай выдаленьня часткі вучняў са школы або зачыненьня існуючых пры гімназіях інтэрнатаў. Такое становішча прымушае Галоўную Управу Т-ва Бел. Школы зьвярнуцца да ўсяго беларускага грамадзянства з заклікам падтрымаць сваімі ахвярамі родныя гімназіі, гэтыя адзіныя ў нас вогнішчы культуры. Новы школьны год, ня гледзячы на ўсе перашкоды з боку ўлады адносна да пэдагагічнага пэрсаналу, пачаўся ўсюды нармальнай, напружанай працай, пры перапоўненых клясах, амаль ня выключна з вясковай моладзі. Ня дайце спыніцца гэтай працы!

Помач пажадана арганізаваная. Ахвяры зьбірайце ў гуртках, павятовых аддзелах, акружных Управах Т-ва Бел. Школы. Ладзьце вечарыны, спэктаклі, засноўвайце стыпэндыі пры Акружных Управах на карысьць незаможных вучняў. Зьбірайце збожжам, грашыма.

Усе ахвяры накіроўвайце на імя Галоўнае Управы Т-ва Бел. Школы (Вільня, вул. Сьв. Анны № 2).

**Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы.**

# Юрыдычныя парады.

**Мікалаю Партонку.** Даведайцеся ў Варшаве ў Консульстве.

**Антону Губічу.** З гэтай зямлі, каб памерла дачка, сястра Ваша атрымала б $^1/_7$ часьць, а рэшта перайшла-б да радні Паташа.

**Падпішчыку № 4222.** Ня бачыўшы дакумантаў, адказу даць ня можам.

**Андрэю Бухавецкаму.** Дарма траціць грошы, бо ніякага закона аб гэтым няма.

# Усячына.

## Новая плянэта.

З Капштадту даносяць, што тамтэйшая астранамічная обсэрваторыя вынайшла на другой старане Нэптуна новую плянэту, якая будзе ўжо восьмай па парадку. Як вядома, дасюль лічылася, разам з зямлёй, сем плянэтаў. Новая плянэта відная толькі ў паўднёвай часьці зямное кулі і ў нас яе ня будзе відно.

# КАЛЕНДАР-КНІЖКА НА 1928 ГОД

## Таварыства Беларускае Школы.

**КАЛЕНДАР-КНІЖКА на 1928 год** Т-ва Белар. Школы ўжо **ДРУКУЕЦЦА** і выйдзе ў прадажу на 1 сьнежня с. г.

Календар друкуецца на добрай паперы і зьмяшчае ў сабе 5 друкаваных аркушоў, гэта знача 80 старонак. У ім будуць гэткія аддзелы:

I. Календарная частка, зьмяшчаючая ў сабе астранамічныя і мэтэролёгічныя дадзеныя, а таксама ўсе дні году па месяцам па двум стылям з указаньнем праваслаўных і каталіцкіх сьвятаў.

II. Літэратурны аддзел, зьмяшчаючы лепшыя творы ў прозе і вершах нашых выдатнейшых пісьменьнікаў.

III. Сельска-гаспад. аддзел, даючы цэнны матэрыял для сялян-земляробаў.

IV. Аддзел Т-ва Беларускае Школы, які мае на мэце пазнаёміць сваіх сяброў і больш шырокую публіку з працай Т-ва і дасягненьнямі яго на культурным полі.

V. Юрыдычны аддзел, даючы цэнныя парады па судаўніцтву.

VI. Мэдыцынскі аддзел, гдзе будуць дадзены ведамасьці па гігіене, фармакалёгіі і лячэньню хваробаў, першай помачы ў няшчасьцях.

VII. Інфармацыйны аддзел: а) Адрасы галоўнейшых беларускіх і дзяржаўных установаў. Тарыфы паштовыя і зялезнадарожныя і інш.

Апошнія тры аддзелы будуць невялічкія.

Апрача гэтага, у Календары будзе зьмешчана цэлы рад фатаграфічных зьнімкаў, ярка рысуючых працу Т-ва на правінцыі і ў цэнтры.

**Кожны сябра Т-ва павінен запасьціся гэтым календаром, тым болей, што цана яго будзе выстаўлена, як мага, дзешавейшая, бо Т-ву ходзіць ня стольки аб заработак, як аб абзнаямленьні шырокай публікі аб культурнай працы Т-ва.**

**ГАЛОЎНАЯ УПРАВА Т-ВА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЫ.**

Рэдактар-Выдавец: Т. Ліхач.



Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.